


*Шмат прыгожых пісанак і вясёлага свята жадае ўсім дзецям „Зорка“.*

№ 17 (978) ГАЗЕТА БЕЛАРУСКІХ ДЗЯЦЕЙ У ПОЛЬШЧЫ 25.IV.1976 г.

Якуб Колас

# Вялікдзень

## (УРЫЎКІ З ПАЭМЫ „НОВАЯ ЗЯМЛЯ“)

*Прыйшла вялікая субота,*
*Даўно прыпынена работа,*
*І ўжо пад вечар сама хата*
*Была прылучана да свята:*
*Лагоднасць, згода і павага*
*І вельмі сталая развага*
*Ўвесь гэты дзень тут панавалі.*
*І блізкасць свята шанавалі*
*Старыя, дзеці і падросткі,*
*І шуму тут не падымалі.*

. . . . . . . . . . . .

*Над ціхай талаю зямлёю*
*Навісла ночка той парою.*
*Была спакойна і лагодна,*
*Як бы сама прырода тая*
*Паважнасць свята адчувае,*
*З людзьмі жыве супольна, згодна.*
*Маўчаць хваіны, ані зыку,*
*Не шэпне гэты бор-музыка,*
*Стаіць маўчком і разважае,*
*Відаць, Вялікадня чакае.*

. . . . . . . . . . .

*А новы дзень, даўно жаданы,*
*Ўжо сыпле багру на курганы,*
*І стрэлы-косы залатыя*
*На ўзгоркі падаюць крутыя.*
*А хмаркі ў фарбах златалітых*
*Ў шаўках, агністых аксамітах,*
*То паасобку, то гурткамі,*
*То залатымі ланцужкамі,*
*Як бы спыніўшысь нерухліва,*
*Усмешкі кідаюць шчасліва, —*
*І ім хацелася, відаць,*
*Святы Вялікаднік вітаць.*

. . . . . . . . . . . .

*Абрусам белым стол накрыты,*
*Усё мае выгляд самавіты;*
*Мужчыны добры і прыветны,*
*Ніякай цені незаметна.*

. . . . . . . . . . .

В. Лаўрыновіч

# Пралескі

Каля рэчкі, на ўзлеску,
Дзе снягі даўно сплылі,
Сінявокія пралескі
Каля лужы расцвілі.

Зелянеюць луг і сцежкі,
Шпак спявае на сасне,
І блакітныя пралескі
Усміхаюцца вясне.

І пад зорамі пралескам
Да світання не да сну:
З салаўінага узлеску
Клічуць весела вясну.



*Відэльцы дружна разбіраюць*
*І гуртам яйкі ачышчаюць,*
*І па кусочку іх бяруць,*
*Крыху падсольваюць, ядуць.*
*Вось бацька чарку налівае*
*І вочы ўгору падымае.*
*— Дай, божа, за год дачакаць*
*Здаровым, вясёлым, жывым*
*І новы Вялікдзень таксама*
*спаткаць*
*У добрым здаровейку ўсім,*
*Каб гора і смутку не знalі.*
*— Дай божа! — разам адказалі.*
*І пайшла чарка з рук у рукі,*
*Пілі ўсе гладка, без прынукі,*
*Малым папрабаваць далі,*
*Каб весялейшыя былі.*
*А на стале тым — рай ды годзе,*
*Што рэдка трапіцца ў народзе.*
*Ляжала шынка, як кадушка,*
*Румяна-белая пампушка,*
*Чырвона зверху, сакаўная,*
*Як бы агонь у ёй палае,*
*А ніз бялюткі, паркалёвы,*
*Кілбасы-скруткі, як падковы,*
*Між сцёган, сала і грудзінак*
*Красуе ўсмажаны падсвінак,*
*Чысцюткі, свежы і румяны,*
*Як бы паніч той надзіманы.*
*Муштарда, хрэн — ажно*
*дзяржыся,*
*У рот паложыш — сцеражыся!*
*А пірагі, як сонца, ззялі,*
*І ў роце бабкі раставалі.*
*Са смакам елі і багата —*
*На тое ж даў бог людзям свята.*



**Пімен Панчанка**

## КРАСАВІЦКАЯ НАВАЛЬНІЦА

Небу цёмна-сіняму і ветру
Скардзіліся чорныя палі:
— Сонцам мы вясновым абагрэты,
А дажджу даўно ўжо не пілі!

І тады прыйшлі паважна хмары —
Айсбергі падсонечных вышынь.
Гром у бубны гулкія ўдарыў,
Цішыню густую пакрышыў.

Я люблю часіну навальніцы,
Калі б'е пярун па ўсіх ладах
І злуюцца ў хмарах бліскавіцы,
Кроплі асыпаючы на дах.

А струменні звоняць, нібы струны,
Прагна п'е іх смяглая зямля;
Травы прарастуць, густыя руні
Забушуюць хутка на палях.

Адгулі грымоты і замоўклі.
Усюды шмат срабрыстых ягад-рос.
Елкі цёмнагрывыя намоклі,
Сушаць вербы пасмы жоўтых кос.

На зямлю блакіт праліўся —
лужын
Шмат блішчыць усюды, а ў вадзе
Сонца промні зыркія варушыць,
Ніткі залацістыя прадзе.

У сетцы дрэў ідзе птушыны
мітынг —
У азоне спеў ямчэй грыміць.
А зямля абмытая дыміцца,
Дыхаючы поўнымі грудзьмі.

На сустрэчу ёй выходзяць людзі:
— Сейбітаў, радзімая, прымай! —
Я па ўсіх прыкметах бачу — будзе
Сёлета багаты ураджай.

Яўген Курто




# Федзева гара

Непадалёк ад нашай Альшэўкі, прыкладна за кіламетр, ёсць гара. Ну, не зусім гара, не такая, якія ёсць, скажам, на Каўказе, але ўзгорак даволі вялікі. Адсюль пачынаюцца славутыя Сыманаўскія лясы.

Зімой гара — самае любімае месца нашых забаў. Тут заўсёды стаіць вясёлы тлум, заўсёды поўна дзетвары. Але і вясной, і летам, і ўвосень гара наша не можа паскардзіцца на бязлюддзе, бо ў любую пару года яна ўмее чым-небудзь прывабіць да сябе: то раннімі кветкамі — пралескамі, то буйнымі салодкімі суніцамі, то крамянымі прыгажунамі — баравікамі.

Да вайны гару называлі Лысай. Даўней тут у канцы чэрвеня, а дакладней на Івана Купалу, збіралася моладзь, паліла вогнішча, вадзіла карагоды і спявала купальскія песні. Так расказваюць старыя людзі.

Цяпер жа гара — наша царства, як я ўжо казаў, царства вясковай дзетвары. І даўно ўжо, з часоў апошняй вайны, не завуць у акрузе гару Лысай. Далі ёй людзі другую назву — Федзева гара.

Чаму Федзева — пра гэта я і хачу расказаць.

У час акупацыі ў нашай вёсцы размяшчаўся нямецкі гарнізон. Ён кантраляваў пэўны ўчастак шашы, што праходзіць на Мінск. У Сыманаўскіх лясах тады ўжо мелі базы некалькі партызанскіх атрадаў. Партызаны рабілі дзёрзкія налёты на варожыя аўтакалоны, палілі масты, мініравалі шашу, грамілі гарнізоны.

Акупанты вельмі баяліся партызан. Яны пабудавалі вакол вёскі доты, паставілі вартавыя вышкі з кулямётамі. Самую высокую, такую высокую, каб з яе была добра відаць і прастрэльвалася Лысая гара, кулямётную вышку фашысты паставілі з боку лесу.

Альшэўцы пазіралі на яе з нянавісцю, бо яна наглуха адгарадзіла вёску ад лесу — ні табе ў ягады схадзіць, ні ў грыбы, а час жа галодны, акупанты ўсе засекі ў людзей падчыстую падшкрэблі. Мала таго, дык і па дровы ў лес гэта праклятая вышка не пускала. Прыходзілася людзям пускаць на паліва платы ды непатрэбныя ў той час хлеўчыкі. Здавалася, каб не стала той вышкі, намнога лягчэй жыццё б пайшло. Гэта, вядома, наіўна, але менавіта так думаў шмат хто. Так думаў і Федзя.

І зачасаліся ў хлапца рукі, пачаў ён прыкідваць і так і гэтак, як лаўчэй зваліць яе, праклятую. Але вось бяда — ніяк да вышкі не падступіцца, ні днём, ні вечарам. Наблізішся, а адтуль ужо крык „Хальт, цурык! Назад!“



Неяк раз, правяраючы ў пуньцы, ці на месцы яго „арсенал“ — так называў Федзя невялікі тайнік, у якім хаваў знойдзеныя ля шашы тол, бікфордаў шнур і ўзрывацелі, — ён выпадкова намацаў пад сенам куфэрак. Адкрыў вечка і аж прысеў ад здзіўлення: у куфэрачку ляжала некалькі кавалкаў старога сала. Канешне ж, гэта маці схавала ад сквапнага вока гітлераўцаў ды паліцаяў.

Федзя дастаў сцізорык і адхапіў ладны кусман. У хаце ўпотай ад маці загарнуў сала ў паперу, сунуў у кішэню і куляй вылецеў за парог. Ён ужо ведаў, што панясе сала немцу, таму самаму вусатаму, які кожны дзень на досвітку забіраецца на высокую вышку. Так трэба. Немцы прагныя да беларускага сала і ад вышкі яго, Федзю, з такім пачастункам, не патураць.



І праўда, варта было яму памахаць у паветры клуначкам з салам, як на вышцы бліснулі шкельцы бінокля і адразу прагучаў лагодны голас: „Ком. Ідзі тут!“ Федзя вавёркай узляцеў па драбінах наверх і перадаў вусатаму таўстуну свой пакунак. Немец хуценька сунуў сала ў ранец, а ўзамен працягнуў хлопчыку тры цыгарэты. Потым дастаў запальнічку і даў прыкурыць. Федзя пацягнуў і адразу закашляўся. Вартавы задаволена зарагатаў: „Карош, рус. Морген заўтра яйкі!“ „Гут, пан!“ — паабяцаў хлопчык.

Вечарам, зачыніўшыся ў хляве, ён майстраваў з толавых шашак міну. Як гэта рабіць, ведаў, бо на свае вочы бачыў, калі летась немцы глушылі рыбу ў рацэ. Хлопчык моцна звязаў провадам дзве толавыя шышкі, уставіў у адну з іх запал, а ў запал — ладны кавалак бікфордава шнура. Свабодны канец шнура наўскасяк абрэзаў.

Назаўтра Федзя зноў быў на вышцы. Ён перадаў вусатаму пяць яек, падрыхтаваных употайку ад маці яшчэ вечарам. Той зноў сунуў узамен тры цыгарэты, даў прыкурыць і папрасіў яшчэ прынесці сала. „Будзе табе, пан, сала...“ — паабяцаў хлопчык і пакаціўся ўніз па лесвіцы. На хаду падпаліў ад цыгарэты шнур, падвесіў міну да цэнтральнай апоры і кумільгом памчаўся да бліжэйшага хлява.

Гледзячы, як хутка мільгаюць яго парэпаныя пяткі, немец задаволена рагатаў: „Карош, рус!“

„Будзе табе „карош“, душагуб пракляты“, — затаіўшыся за вуглом хлява і з заміраннем сэрца чакаючы выбуху, злосна шаптаў Федзя.

І вось яно! Блiснула, аглушальна грымнула. Нібы саломінкі, разляцеліся ў бакі тоўстыя жэрдкі. Мяшком чмякнуўся на крушню вартавы з кулямётам. І не стала над Альшэўкай самай высокай вышкі.

Пагоня на Лысую гару нічога немцам не дала. „Партызан“ аказаўся няўлоўным.

**(Працяг будзе)**

 **ПАГЛЫБЛЯЙ**  **СВАЕ ВЕДЫ** 

## ВЕСТКІ З СССР

**Волат Сібіры.**

Ва Усходняй Сібіры, на рацэ Енісей, будуецца самая вялікая гідраэлектрастанцыя нашай планеты — Саяна-Шушэнская з праектаванай магутнасцю 6,4 мільёна кілаватаў. Па разліках спецыялістаў гэта будзе самая танная электрычная энергія ў свеце. Гідраэлектрастанцыя дасць жыццё шматлікім прадпрыемствам Саянскага тэрытарыяльнага комплексу, які ствараецца вакол гідрастанцыі. Комплекс аб'ядноўвае 120 вялікіх прамысловых прадпрыемстваў.

**Школьнікі-вынаходнікі.**

12 медаляў і 14 дыпломаў Выстаўкі дасягненняў народнай гаспадаркі СССР атрымалі за свае працы малыя вынаходнікі — вучні школы пасёлка Канстанцінаўкі (недалёка ад Яраслаўля на Волзе).

Гэта школа ўжо шэсць год з'яўляецца калектыўным членам Усесаюзнага таварыства вынаходнікаў і рацыяналізатараў. Шматлікія вынаходніцтвы дзяцей знайшлі практычнае прымяненне на мясцовай хімічнай фабрыцы, у пажарнай ахове пасёлка, на птушкафабрыцы і, вядома, у кабінетах самой школы.

Напрыклад, малыя вынаходнікі стварылі электронны прыбор, які выкарыстоўваецца на ўроках спеву. У момант гучання адпаведнай ноты ў апараце запальваецца адпаведная лямпачка.

Тэхнічная творчасць павышае ў дзяцей цікавасць да вывучэння фізікі, матэматыкі, радыёэлектронікі, яна рыхтуе дзяцей да свядомага выбару прафесіі.

**Трактар „Беларусь".**

Каго ў век навукова-тэхнічнай рэвалюцыі можна здзівіць... трактарам?

Нешта падобнае здарылася, калі на палі Амерыкі два гады назад прыйшлі першыя савецкія трактары „Беларусь". Гэтыя сельскагаспадарчыя машыны зрабілі ў штаце Нью-Йорк сапраўдную сенсацыю, аб якой расказала на сваіх старонках газета „Нью-Йорк таймс". Прычына сенсацыі — вынікі „экзаменаў", якія былі арганізаваны трактару Факультэтам механізацыі сельскай гаспадаркі універсітэта ў штаце Нябраска, дзе ўжо больш пяцідзесяці год працуе станцыя даследавання трактараў. Пасведчанні гэтай станцыі з'яўляюцца найбольш аўтарытэтнымі для фірм, гандлюючых трактарамі.

Трактар „Беларусь" МТЗ-80, прадстаўлены на выпрабаванне ў Нябраску савецкім аб'яднаннем „Трактараэкспарт" і зарэгістраваны ў пратаколе станцыі пад нумарам 1139, атрымаў тут самую высокую ацэнку. Самая каштоўная яго рыса — шырокая ўніверсальнасць: трактар можа працаваць са 160 відамі прычэпных сельскагаспадарчых машын. Максімальная хуткасць трактара ў рабоце — 15 кіламетраў на гадзіну.

УВАГА! УВАГА!

Для ўсіх чытачоў

# Новы „Зорчын“ конкурс

пад загалоўкам „Веснавыя парадкі“

**На конкурс трэба прыслаць праўдзівыя апавяданні (рэпартажы) аб тым, як вы ўпарадкавалі, сустракаючы вясну, свой школьны падворак. Каб добра напісаць, трэба спачатку сапраўды зрабіць прыгожа і чыста вакол школы, а потым прыгожа напісаць ў „Зорку“. Пісаць можна таксама і аб упарадкаванні двара вакол сваёй хаты ці хаты суседа, якому вы дапамаглі. У рэпартажы трэба дакладна апісаць усё, што і як было зроблена, можна нават намаляваць або, хто ўмее, зрабіць здымак. Усе дасланыя матэрыялы будуць надрукаваны ў „Зорцы“, а найлепшыя — узнагароджаны цікавымі кніжкамі. Запрашаю ўсіх дзяцей удзельнічаць у „Зорчыным“ конкурсе.**



## Пішуць школьнікі



### ДАРАГАЯ „ЗОРАЧКА“!

Мы вучымся ў школе ў Парцаве. Вывучаем беларускую мову. Настаўнікам па беларускай мове ў нас з'яўляецца карэспандэнт „Нівы“ Міхась Матвеюк. На ўроках у нас вельмі цікава і весела.

Беларуская мова здаецца нам вельмі прыгожай, асабліва мы любім беларускія казкі і вершы, якіх вельмі многа.

Але ў нашай школе ёсць шмат дзяцей, якія не вучацца беларускай мове, хоць усе яны беларусы. Большасць з іх цяпер шкадуе, што не хадзілі на ўрокі беларускай мовы адразу, яшчэ ў малодшых класах, бо не ведалі, што мова наша такая прыгожая і мілагучная, і што ўрокі праходзяць так цікава. Літаратурная мова здавалася ім цяжкай.

А вось мы будзем вучыцца далей і заахвочваем усіх дзяцей-беларусаў глыбей пазнаваць сваю родную мову. Усе вучні, якія вучацца беларускай мове, выпісваюць „Ніву“ з „Зоркай“. „Зорку“ чытаем і на ўроках.

З прывітаннем

**Люда Артэмюк, Жэня Себясевіч, Мікола Артэмюк, Марыся Галёнка, Мірка Артэмюк, Аліна Корзун, Жэня Троц, Жэня Хаманская, В. Лушчынскі і В. Хаманская. Парцава.**

### ВОДГУКІ НА АПАВЯДАННЕ „ФАРТУХ“

Нядаўна ў „Зорцы“ друкавалася апавяданне Л. Ястрабавай „Фартух“. Рэдакцыя запрапанавала дзецям выказаць сваю думку аб паводзінах Лены. Першымі адгукнуліся дзяўчынкі са школы ў Орлі. Вось што яны пішуць:

*„Калі я прачытала апавяданне, я абурылася на Лену, таму што яна паступіла няправільна. Яна пакрыўдзіла сваю бабулю, якая заўсёды была такая добрая для Лены. Апавяданне гэта навучыць іншых дзяцей, што калі нешта каму-небудзь падорыш, дык адбіраць назад нельга. А Лена пакрыўдзіла не толькі бабулю, але і*

*прыкра здзівіла сваім учынкам сваіх і бабулiных знаёмых. Я на месцы Лены не рабіла б так. Я адразу пашыла б бабулі новы другі фартух, калі той трэба было аддаць на выстаўку.*

**Ёля Жабінская, вуч. 5 кл.“**

*„Калі б мой фартух прынялі на выстаўку, я зрабіла б для бабулі другі фартух, яшчэ прыгажэйшы. Падарункаў нельга забіраць.*

**Аляксандра Мураўская, 5 кл.“**

*„Адносячы фартух на выстаўку, я папрасіла б бабулю не сумаваць, бо як толькі вернецца ён з выстаўкі, адразу яго аддам бабулі або зраблю яшчэ лепшы фартух. А дзеці з апавядання даведаліся, што дарыць, а потым забіраць — гэта вельмі брыдка.*

**Аля Аўдзеевіч, 5 кл.“**

## АДГАДАНКА



*Прыгледзься ўважліва да малюнка і скажы, якія звяры на ім намаляваны.*

## Пазнаёмімся

* ✲ *

СССР, Ростовская обл., Азовский район, с. Ново-Александровка, ул. Ленина 62. Брыкиной Наташе. Дзяўчынка вучыцца ў восьмым класе.

* ✲ *

СССР, г. Баку, пос. Хурдалан, 27 квартал, дом 4, кв. 38. Малышкиной Вике. Дзяўчынка вучыцца ў чацвертым класе.

* ✲ *

Дарагая „Зорачка“! Увесь наш клас — сталыя падпісчыкі „Нівы“ з „Зорачкай“. Усе мы хочам перапісвацца з сябрамі з іншых школ цэлым класам або індывідуальна. Вось наш адрас: Вёска Вілянова, пошта 17-334 Клюковічы, Беластоцкае ваяводства. Вучні шостага класа Раіса Дзмітрук, Пеця Брык, Эва Тымошук, Марыля Жарначук, Янка Лонскі, Пеця Сульжык, Збышак Мяшкоўскі, Раіса Якімюк і Марыся Шышко.

* ✲ *

Вучні пятага класа Янка Брык Пеця Ахрымюк і Ірына Максімюк — в. Вілянова, пошта 17-334 Клюковічы, Беластоцкае ваяводства.

* ✲ *

СССР, 344053, г. Ростов н/Д-53, пос. Мясникован, ул. Каменнобродская 10. Текучевой Татьяне. Дзяўчынка вучыцца ў сёмым класе.

* ✲ *

Яўгенія Хаманская, вучаніца чацвертага класа, в. Спічкі 44, пошта Орля 17-106, Беластоцкае ваяводства. Жэня хоча перапісвацца з сябрамі з Беласточчыны.

**Адрас рэдакцыі: „Зорка“**, Białystok, ul. Wesołowskiego 1.